«Народную Волю» выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 9 (4364)**

1 лютага 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Б'юць рублём па дэмакратыі

Беларускія ўлады таксама вучацца. Раней на праявы вулічнай актыўнасці рэагавалі прымітыўна – забаронай ды дубінкай. Але ж цяпер з Захадам трэба наводзіць масты, і таму сталі дзейнічаць хітрэй. У прыватнасці, ахвотных мітынгаваць вырашана біць рублём.

Не, гаворка не пра штрафы за недазволеныя акцыі, хоць і гэта мера ў арсенале застаецца. Цяпер трэнд такі, што, маўляў, дазваляем, але ж заплаціце, панове актывісты, за сваё свята дэмакратыі па поўнай праграме.

З аднаго боку, прынялі змены ў закон аб масавых мерапрыемствах, каб пусціць пыл у вочы заходнікам. Што да вулічных акцый, то цяпер у нас, маўляў, заяўны прынцып, а не дазвольны (хоць па сутнасці мала што мяняецца).

З іншага боку, днямі Савет міністраў выдаў пастанову № 49 з расцэнкамі за такія мерапрыемствы. Раней падобныя рахункі маглі выстаўляць мясцовыя ўлады паводле свайго разумення. А цяпер усе тарыфы распісаны. І яны такія, што ў партыйных ды грамадскіх дзеячаў (а для многіх структур нават за офіс заплаціць – праблема) вочы на лоб палезлі.

Нават калі мяркуецца акцыя з удзелам да дзесяці чалавек, то трэба выкласці за адны толькі паслугі міліцыі тры базавыя велічыні – 76 з паловай рублёў. Калі ж удзельнікаў болей за тысячу, то давядзецца заплаціць органу ўнутраных спраў аж 250 базавых велічынь – гэта на сёння 6375 рублёў. Прычым калі хочаце зладзіць акцыю па-за межамі апрыёры вызначаных мясцовымі ўладамі месцаў, то сума памнажаецца на паўтара.

Такім чынам, мітынг ля сталічнага опернага тэатра, які апазіцыя хоча зладзіць на Дзень Волі, можа абысціся заяўнікам у суму пад дзесяць тысяч. Падобны няслабы рахунак могуць выкаціць і грамадскім актывістам, што мяркуюць арганізаваць 24 сакавіка свята ў гонар Дня Волі на мінскім стадыёне "Дынама".

І гэта плата толькі за ахову грамадскага парадку. А яшчэ ж арганізатары мусяць заключыць дамовы і з медыкамі, камунальнікамі.

Вось вам і Дзень Волі! Хочаце паказаць, якія вы незалежнікі – раскашэльвайцеся. Між тым акурат цяпер над незалежнасцю згусціліся хмары. Сам афіцыйны лідар прызнаў, што Масква дэ-факта патрабуе прадаць суверэнітэт за бочку нафты. І на гэтым фоне дзяржава лупіць грошы з актыўных грамадзян, што хочуць падкрэсліць сваю волю да абароны незалежнасці. Абсурд у квадраце!

Што ж да аховы грамадскага парадку, дзяжурства "хуткай дапамогі", падмятання вуліц, то на гэта і так ідуць нашы падаткі. Чаму з актыўных грамадзян збіраецца яшчэ і нейкі асобны аброк? І чаму гэта робіцца выбарачна? Наколькі мне вядома, праўладныя арганізацыі за свае вулічныя мерапрыемствы ні капейкі не плацяць. І нават заявак не падаюць. Ці не тая гэта формула, якую любіў дыктатар Франка: сябрам – усё, ворагам – закон?

Насамрэч подбіўка такога падыходу чытаецца лёгка. Спецыфіка беларускай палітычнай сістэмы такая, што ўлада страшэнна баіцца любой непадкантрольнай грамадскай актыўнасці, асабліва вулічнай. Так і мрояцца майданы, каляровыя рэвалюцыі. А тут насоўваюцца дзве выбарчыя кампаніі – парламенцкая ды прэзідэнцкая. Вялікае начальства перастрахоўваецца.

А паколькі біць дручкамі па галовах – не самая добрая ідэя ва ўмовах, калі дазарэзу трэба нармалізаваць адносіны з Еўрасаюзам, Штатамі, то вырашана біць актыўную частку грамадства рублём – грабежніцкім тарыфам на масавыя мерапрыемствы.

Прычым заходнікам гэта можна падаць як укараненне рынкавых падыходаў. Вы ж, маўляў, самі за рынак. Хай бы ж гэтак жвава ды крэатыўна айчыннае чынавенства ладзіла рынкавыя рэформы ў эканоміцы! Тут жа фактычна здзіраюць грошы за рэалізацыю канстытуцыйнага права. Гэтакая камерцыя на асноўным Законе.

Зрэшты, мяркую, што звышзадача ў гэтым выпадку нават не папоўніць бюджэты адпаведных структур, а здушыць грамадзянскую актыўнасць.

Засцярогі вертыкалі зразумелыя. Баяцца за свае крэслы. Але ж спадзеў, што пашэнціць разруляваць сітуацыю з Масквой "па паняццях", прывідны. Імперыя ёсць імперыя, яна будзе і надалей браць за гарляк. Мала не здасца нікому. І калі мы не хочам бяздарна прайграць Беларусь, то трэба ўмацоўваць слой актыўных, свядомых грамадзян.

Калі ж марнаваць рознымі інструментамі – і грубымі, і хітрымі – замацаваную ў 35-м артыкуле Канстытуцыі свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, то ў крытычнай сітуацыі народнае абурэнне можа проста сарваць накрыўку катла. Тады ўжо тым, хто хоча трымаць краіну пад каўпаком, давядзецца плаціць. Прычым па жорсткім тарыфе.

ЧУЛІ?

### «Беларуснафта» зробіць зарадку электрамабіляў платнай

«Беларуснафта» з 2014 года зараджае электратранспарт бясплатна, у II квартале гэтага года плануе зрабіць зарадку платнай.

Кошт будзе складаць у межах 30 капеек за 1 кВт·г. Пры такім тарыфе кошт 100 кіламетраў дарогі пры расходзе 18 кВт·г складзе каля 5,4 рубля.

У СВЕЦЕ



## Амерыка і Еўропа дапамагаюць венесуэльскаму апазіцыянеру выбіць крэсла з-пад Нікаласа Мадуры

Прэзідэнт ЗША Трамп падчас тэлефоннай размовы павіншаваў лідара апазіцыі Венесуэлы Хуана Гуайдо, які абвясціў сябе часовым кіраўніком краіны, з пачаткам прэзідэнцтва.

Законным прэзідэнтам Венесуэлы прызнаў Гуайдо і Еўрапейскі парламент.

КРЫМІНАЛ

## За хабар 150 тысяч рублёў затрыманы гендырэктар «Віцебскмясамалпраму», яго былы намеснік і кіраўнік прыватнай кампаніі

Днямі ў Віцебску на тэрыторыі ААТ «Віцебскмясамалпрам» з удзелам АМАПу затрымлівалі кіраўніка акцыянернага таварыства, яго былога намесніка і кіраўніка адной з прыватных кампаній Віцебска, паведамілі TUT.BY крыніцы на прадпрыемстве. Падставай для затрымання, паводле іх слоў, стаў хабар у памеры каля 150 тысяч рублёў.

Гаворка ідзе пра 35-гадовага гендырэктара «Віцебскмясамалпраму» Валерыя Каспяровіча, яго былога першага намесніка 34-гадовага **Віктара Славецкага** і кіраўніка прыватнай кампаніі «Віцебскгандаль» **Міхаіла Славецкага.**

Доўгі час – каля 10 гадоў – Дзяржаўнае аб'яднанне «Віцебскі канцэрн "Мяса-малочныя прадукты» ўзначальваў Віктар Браніслававіч Славецкі. Улетку 2018 года ён сышоў з пасады. Зараз Віктар Браніслававіч з'яўляецца памочнікам генеральнага дырэктара ААТ «Віцебскмясамалпрам» Валерыя Каспяровіча.

Яго сын, 34-гадовы Віктар Віктаравіч Славецкі, нейкі час займаў пасаду першага намесніка генеральнага дырэктара «Віцебскмясамалпраму», з кастрычніка 2018 года афармлены як індывідуальны прадпрымальнік.

### У чым падазраюць Каспяровіча і Славецкіх?

– Дзеянні службовых асоб прадпрыемства, якое з'яўляецца базавым лагістычным цэнтрам Дзяржаўнага аб'яднання «Віцебскі канцэрн «Мяса-малочныя прадукты», дазвалялі не толькі атрымліваць заработную плату і заахвочвальныя бонусы, якія ў разы перавышаюць сярэднія ў галіне па краіне, але і атрымліваць хабар ад прадстаўнікоў камерцыйных арганізацый-партнёраў. Выбудаваная схема заключалася ў прыцягненні да супрацоўніцтва суб'ектаў гаспадарання прыватнай формы ўласнасці для стварэння ланцужка неабгрунтаванага пасрэдніцтва пры закупцы тавараў для перапрацоўчых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў вобласці. У далейшым тавары пастаўляліся па завышаным кошце, што істотна адбівалася на сабекошце прадукцыі і канчатковай адпускной цане, – пракаментавалі ў УУС.

Усе трое затрыманы. Заведзена крымінальная справа за атрыманне хабару, фігурантам пагражае ад 5 да 15 гадоў калоніі.

РЭГІЁН

### Факт вандалізму на яўрэйскіх могілках у Лідзе

З мемарыяльнага комплексу на брацкай магіле ў Лідзе, дзе пахаваны 6700 яўрэяў, якія былі расстраляны ў 1942 годзе, невядомыя вырвалі калітку.

Факт вандалізму ў Лідзе выявіў мясцовы пенсіянер Міхаіл Манскі. Ён распавёў "Народнай Волі", што ў мінулую нядзелю ў Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакосту наведаў мемарыял і ўбачыў, што на агароджы выламана калітка.

"Я быў перад гэтым прыкладна паўмесяца таму, і ўсё тут было ў поўным парадку, – распавёў спадар Манскі. – Не магу ўявіць, хто гэта зрабіў. Нічога падобнага раней ніколі не было. Людзі ж павінны ведаць, што нельга рабаваць могілкі...".

Паводле слоў спадара Манскага, на гэтых могілках пахаваны 16 чалавек яго родных і блізкіх. Міхаіл Іванавіч распавёў "Народнай Волі", што кожны год 8 мая ў памяць аб расстраляных тут адбываецца жалобны мітынг, у якім бяруць удзел не толькі лідчане, а і людзі з розных рэгіёнаў свету, чые родныя і блізкія сталі ахвярамі генацыду і пахаваны ў гэтай брацкай магіле.

Па факце вандалізму кіраўніцтва рэгіянальнага яўрэйскага мемарыяльна-культурнага грамадскага аб'яднання звярнулася з адпаведнай заявай у Лідскі РАУС.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**



ВЫСТАВКИ

## «К нам приезжают из-за рубежа не Левитана и Шишкина смотреть, а национальное искусство»



Реставраторы Национального художественного музея, движимые моральным долгом, как сообщается в пресс-релизе, открыли выставку: пять залов, шесть десятков произведений искусства. Это старинные иконы, предметы декоративно-прикладного искусства, а также несколько портретов Радзивиллов, над которыми они работали последние годы, возвращая им первоначальный облик, – как, например, знаменитый портрет князя Януша Радзивилла *(на фото)*. **Аркадий Самуилович ШПУНТ**, заведующий отделом научно-реставрационных мастерских, рассказывает:

– В наших запасниках произведения искусства лежат чуть ли не по 40 лет – отреставрированные или ожидающие реставрации. Их никто, кроме специалистов, не видел. И попадут ли они когда-нибудь в постоянную экспозицию? А показывать обязательно надо, это сильно расширяет горизонт восприятия белорусского искусства, а значит, белорусской нации.

– У нас, реставраторов, не бывает вещей важных или не важных, потому что одна уцелевшая вещь может являться признаком целой школы, – продолжает Аркадий Самуилович. – И держать вещь в хранилище, не показывать людям – непрофессионально, неправильно, даже преступно. К нам приезжают гости из-за рубежа не Левитана и Шишкина смотреть (хотя на них посмотреть никогда не вредно). Но люди приезжают узнать поближе, что такое Беларусь, почувствовать душу народа. А как это можно сделать? Только через искусство. И я не понимаю, почему в нашей независимой республике до сих пор нет музея национального искусства. Я полагаю, что это вообще вопрос безопасности. Мы можем не заметить, как наступит время и вокруг нас большинство вдруг заговорит по-китайски. Но если уцелеет наше искусство, мы навсегда останемся белорусами.

**Виктория ДРОЗД.**

ЛІЧБЫ

### У даўгах…

*Беларусь пазычыла за год 2 млрд 353,8 млн долараў.*

Найбольш бралі пазыку ва ўрада і банкаў Расіі – больш за 879 мільёнаў долараў. У банкаў Кітая – 509,2 млн долараў, інфармуе прэс-служба Міністэрства фінансаў.

Дзяржаўны доўг Беларусі за мінулы год вырас на 3,2 млрд рублёў (на 7,6%), на 1 студзеня 2019-га ён складаў 45,4 млрд долараў.

На кампенсацыю дзярждоўгу ў мінулым годзе было выдаткавана 1 млрд 997,3 млн долараў.

ПАДЗЕЯ

### Прэмія імя Міхала Анемпадыстава

Беларускі ПЭН-цэнтр сумесна з Саюзам дызайнераў і Лятучым універсітэтам заснавалі новую прэмію – яна будзе ўручацца мастакам за лепшую вокладку да беларускай кнігі. Прэмія будзе насіць імя дызайнера і паэта Міхала Анемпадыстава, які памёр у мінулым годзе. Першае ўганараванне адбудзецца ўжо сёлета, падчас фестывалю інтэлектуальнай кнігі "Прадмова". *"Нам вельмі хочацца ўшанаваць чалавека, які так шмат рабіў для беларускай культуры,* – адзначыла старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра **Таццяна Нядбай**. – *Спадзяёмся, што прэміяй Анемпадыстава будзе адзначаца найлепшая вокладка не толькі візуальна, але і з гледзішча таго, наколькі яна надае цэласнасці кнізе як твору мастацтва"*. Цяпер, паводле слоў арганізатараў, вызначаецца склад журы прэміі.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

МНЕНИЕ

## Реформы вместо страстей



Людмила ГРЯЗНОВА,
экс-депутат Верховного Совета 13-го созыва

В последние месяцы заметно возросло количество публикаций алармистского характера по поводу российско-белорусских экономических отношений. С одной стороны, совершенно справедлива озабоченность многочисленных спикеров по поводу сокращения российских дотаций белорусской экономике, которой неизбежно придется меняться и реформироваться в рыночном направлении. С другой – чрезмерный накал в публичной информационной сфере способен подорвать устойчивость белорусской вертикали власти и вызвать неуправляемые процессы в административной модели.

Несмотря на ожидания либерально настроенной публики, прыжка в рынок в девяностые и последующие годы Беларусь не совершила. После обретения независимости от кремлевского высшего уровня управления здесь на обломках местных отраслевых и региональных структур воссоздалась прежняя государственная административная экономика. Лишь с несколькими несущественными отличиями.

Если раньше госпредприятия обеспечивались материальными и финансовыми ресурсами, причем последние имели второстепенное значение, то теперь для их выживаемости используются финансы, которые в той или иной форме предоставляются госбюджетом. В рамках такой модели отношений, когда предприятия конкурируют лишь за ресурсы, распределяемые сверху, рыночных субъектов, конкурирующих за потребителя, не просматривается. Даже в частном секторе значительная доля хозяйственных субъектов в большей степени ориентирована не на потребителя, а на доступ к ресурсам, которые распределяются госпредприятиям.

Если раньше управление административной экономикой, несмотря на множество отраслевых и региональных структур, осуществлялось партийным руководством, то теперь роль такого интегрирующего органа выполняет президентская вертикаль власти. Кроме смены названия «вертикаль» вместо «компартия» и сокращения числа уровней управления, суть отношений в иерархически построенной модели осталась неизменной. Чиновники распределяют ресурсы в соответствии с теми или иными государственными приоритетами, часто являющимися результатами лоббистских усилий, а также занимаются их перераспределением, корректируя запланированные приоритеты, либо выводя ресурсы в теневой оборот. Нецелевое использование ресурсов и связанные с ними коррупционные отношения в вертикали власти, как бы она ни называлась, ограничиваются в данной модели административным контролем и репрессиями, которые лишь только удерживают экономику в функциональном состоянии, но не обеспечивают ее эффективности.

При наличии двух главных условий, достаточного количества ресурсов и вертикали власти, интегрирующей систему управления, административная экономика способна функционировать. Превращать товары в деньги и обратно, связывая материальные и финансовые потоки. Несмотря на неэффективность, целостность экономики поддерживается и государственное устройство обеспечивается.

Но как только данные условия внезапно исчезают, возникает угроза распада целостной системы. Ее отдельные элементы, получившие нежданную самостоятельность, какое-то время оказываются в состоянии невесомости. Старые административные схемы распределения ресурсов растворились, а новые рыночные формы согласования интересов не выстроены. Дезинтеграция материальных и финансовых активов, доставшихся в ходе стихийной коммерциализации разным экономическим субъектам, приводит первоначально к резкому экономическому спаду. Так называемая украинизация экономики может стать реальностью в Беларуси.

Адаптация к сокращающимся российским ресурсам и поиск других источников финансирования, управляемое реформирование экономики, обеспечение устойчивости вертикали власти, пока функционирует крупный госсектор, позволят избежать угрожающего сценария. Подобная государственная тактика более продуктивна, чем алармистские публичные заявления.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Уезжают…

На 2019 год правительство запланировало 4 процента роста ВВП. Причем какая-то доля из них заложена за счет роста численности занятых в экономике, которая сокращается в стране с 2011 года. Естественная причина – старение населения. Неестественная причина – сыскать работу во многих периферийных районах да еще с более или менее достойной зарплатой практически невозможно. И белорусы тысячами уезжают в другие страны. Некоторые – насовсем, надеясь на чужбине обрести достаток и перспективу.

В 2018 году на заработки, по официальным данным, уехало на 390 человек больше, чем годом ранее, то есть выехало 11.093 соотечественника. Пока по белорусским гастарбайтерам лидирует Россия – 4978 человек (в прошлом году туда выехало 6160 белорусов). Средняя зарплата в России составляет 640 долларов в эквиваленте, или 560 евро. Но на протяжении четырех лет она продолжает снижаться. Поэтому вектор эмиграционного потока все больше поворачивается в западном направлении. В Польше трудоустроился в прошлом году 3181 наш соотечественник (средняя зарплата 1230 евро), в Литве – 1289 человек (средняя зарплата – 895 евро). Выезжают граждане Беларуси и в другие страны: в Чехию подались 494 человека, в США – 358 человек, в Германию – 340 человек, в Финляндию – 112 человек, до Китая добрались 97 человек. Это, повторяю, по официальной статистике.

Большое количество наших эмигрантов работают за рубежом нелегально, то есть никакому учету они не поддаются. Особенно таких много в России. С ней у нас нет границы. Но уже немало стран, где нелегально трудоустраиваются белорусские первопроходцы: от Великобритании до Арабских эмиратов, Японии и Тайваня.

С одной стороны, миграция рабочей силы присуща всем странам. Некоторые наши соотечественники в конце концов вернутся на родину, обогащенные передовым зарубежным опытом, но многие уехали навсегда. И выезжают наиболее активные и мобильные слои населения. Зачастую с высокой квалификацией. Все большее количество нашей молодежи едет на учебу в Польшу и Чехию, в западные страны. На вопрос, вернетесь ли после окончания университета домой, положительный ответ дают единицы.

Эмиграционный отток рабочей силы, специалистов испытывают те же страны Балтии, Польша, Чехия. Естественно, после вхождения в ЕС этот поток эмигрантов направился в поисках лучшей доли в страны Запада. А их место занимают гастарбайтеры из Украины, Беларуси, Молдовы. Вот такая нехорошая тенденция. Беларусь, как известно, также принимает из-за рубежа трудовых мигрантов. Планово и внепланово. В первом случае – в основном китайцев, во втором – больше украинцев. Но это слабое утешение. Так как эмиграционный поток все больше превышает иммиграционный. И утечка рабочей силы и специалистов налицо. За счет кого же в текущем году мы будем увеличивать ВВП на 4 процента?

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Для Каложы падбіраюць тэмпературны рэжым

*Вучоныя-кліматолагі з Масквы і Мінска заняліся вывучэннем уздзеяння кліматычных умоў на захаванне помніка архітэктуры XII стагоддзя – Каложскай царквы ў Гродне.*

Як лічыць настаяцель Каложскай царквы айцец **Аляксандр Балоннікаў**, сёння цеплавая нагрузка на канструкцыі храма, якія захаваліся з XII стагоддзя, узрастае.

*"Праблема ў тым, што любая цэгла, у тым ліку і плінфа, адчувальная да змены тэмпературы і вільгаці,* – распавядае айцец Аляксандр. – *І калі раней за зіму сцяна адзін раз прамярзала, а потым вясной адтайвала, то цяперашнімі зімамі гэты працэс можа паўтарацца мноства разоў, што, зразумела, вельмі дрэнна адбіваецца на захаванні будынка".*



Каложская царква.

Адным са спосабаў рашэння гэтай праблемы можа быць мінімальны альбо абмежаваны падагрэў аўтэнтычнай цаглянай сцяны Каложы. Айцец Аляксандр удакладняе, што ў дадзеным выпадку размова не вядзецца пра ўласна абагрэў храма.

*"У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра тое, каб забяспечыць той мінімальны рэжым, які дазволіць рэгуляваць тэмпературу і вільготнасць самой сцяны,* – завастрае ўвагу святар. – *Такія тэхналогіі выкарыстоўваюцца ў многіх помніках архітэктуры і даюць добрыя вынікі".*

Міхал КАРНЕВІЧ.

РЭГІЁН

## На Копыльщине устали играть свадьбы

Если в 2017-м здесь было зарегистрировано 134 брака, то в минувшем году – только 125.

Больше всего браков было зарегистрировано Тимковичским сельским исполкомом – 10.

Средний возраст мужчин, вступивших в брак в Копыльском районе в 2018 году, 30 лет, женщин – 27 лет.

Лариса НАСАНОВИЧ.

ПАЗІЦЫЯ

## Саюз палякаў асуджае і выказвае спадзяванні

Непрызнаны беларускімі ўладамі Саюз палякаў Беларусі пад кіраўніцтвам Анжалікі Борыс прыняў заяву, у якой выступіў з асуджэннем беларускіх улад, якія, як лічаць заяўнікі, займаюцца дыскрымінацыяй палякаў і польскіх арганізацый у Беларусі.

У заяве гаворыцца, што ў многіх рэгіёнах Беларусі, дзе дзейнічаюць аддзяленні Саюза палякаў, сябрамі арганізацыі зафіксаваны шматлікія факты *"блакіравання альбо абмежавання статутнай дзейнасці СПБ органамі дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь".*

Сярод прыкладаў факты перашкоды збоку беларускіх улад у правядзенні сходаў СПБ, пераслед настаўнікаў, якія навучаюць дзяцей польскай мове, ціск на канкрэтных кіраўнікоў рэгіянальных аддзяленняў Саюза палякаў.

СПБ асуджае дзеянні беларускіх улад у адносінах да польскай меншасці і выказвае спадзяванне, што польска-беларускі дыялог, які зараз адбываецца паміж краінамі, паспрыяе вядзенню легальнай дзейнасці дэмакратычна абраным кіраўніцтвам Саюза палякаў Беларусі.

Заява прынята на першым сёлета пасяджэнні Галоўнай рады Саюза палякаў Беларусі.

Нагадаем, што з 2005 года ў Беларусі існуюць два Саюзы палякаў. Адзін з іх падтрымліваюць беларускія ўлады, а другі, пад кіраўніцтвам Анжалікі Борыс, імі не прызнаецца, але мае падтрымку ад улад Польшчы.

Аляксей МІХАЛЁЎ.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Як склаўся лёс Ялінкі Салаўёвай?

*Добры дзень, рэдакцыя "Народнай Волі"! Дзякуй Вам за газету! Кожны нумар чакаем, перачытваем. Перадаём тым, у каго складанае матэрыяльнае становішча. Ваша газета цікавая, смелая і патрэбная. Шчырая Вам падзяка!*

*І яшчэ. Вы неаднойчы давалі інфармацыю пра дзяўчынку Ялінку Салаўёву з Магілёва, якая адна займаецца ў беларускім класе.*

*Ці скончыла яна школу? Чым зараз займаецца?"*

Роза РЫМАР, Гродна.



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Ялінка па-ранейшаму вучыцца адна ў беларускамоўным класе»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з бацькам дзяўчынкі.*

– Ялінка вучыцца ў 9-м класе магілёўскай школы №1, – распавядае **Зміцер САЛАЎЁЎ**. – У класе па-ранейшаму адна, ніхто не далучыўся, нягледзячы на тое, што мы штогод давалі абвесткі.

Думаю, адны і даўчынем, бо наўрад ці хто ў старэйшых класах будзе мяняць мову навучання. Хаця ўвогуле працэс папулярызацыі беларускай мовы ў горадзе ідзе нармальна, і кожны год у нас з'яўляюцца беларускамоўныя дзеткі.

**– Ялінка ўжо прызвычаілася вучыцца адна?**

– Так, ставіцца да гэтага вельмі спакойна. Да яе прыходзяць настаўнікі, вучаць, як і ўсіх астатніх. Адзінае, што дачцэ ўжо не "сачкануць", і да таго ж на кожным уроку трэба, як кажуць, выходзіць да дошкі. Ялінцы такі навучальны працэс, можа, і не вельмі падабаецца, хаця мяне як бацьку цалкам задавальняе.

Дарэчы, урокі рускай мовы і літаратуры, англійскай мовы і фізкультуры дачка праводзіць разам з рускамоўным класам.

**– Усе выкладчыкі добра валодаюць беларускай мовай?**

– Калі пачыналі, то больш размаўлялі на трасянцы, але з цягам часу і самі вучыліся, і Ялінка ім дапамагала. З настаўнікамі ўвогуле няма ніякіх канфліктных сітуацый, а калі і з'яўляецца невялікая праблема, то аператыўна яе вырашаем.

У нас таксама ёсць свой класны кіраўнік, і калі адбываецца пэўная непаразуменні, то заўсёды можна ліквідаваць гэтыя працоўныя дробязі. Тым больш і дырэктар вельмі добра ставіцца да Ялінкі.

**– А на бацькоўскія сходы вас запрашаюць?**

– Так, раз на паўгода я альбо жонка збіраемся з класным кіраўніком і абмяркоўваем нейкія навучальныя і тэхнічныя моманты. Адным словам, звычайныя бацькоўскія сходы, толькі нешматлюдныя.

**– З равеснікамі ў школе нейкія стасункі Ялінка падтрымлівае?**

– Безумоўна, у яе ёсць сяброўкі ў паралельным класе, часам школьнікі ладзяць сумесныя школьныя імпрэзы. Таму абсалютна няма ніякіх праблем з сацыялізацыяй. Колькі нас ні палохалі, але за ўсе гэтыя гады навучання з такімі праблемамі мы не сутыкаліся ні разу.

Хапала часу і на вучобу, і на камунікацыю з іншымі дзецьмі. Калі Ялінка была малодшая, дык яшчэ і на двары паспявала з равеснікамі пагуляцца. Таму мне проста смешна, калі слухаю пэўныя разважанні на гэтую тэму школьных самавучак-псіхолагаў.

**– Як вучыцца дачка? Чым захапляецца?**

– Добра вучыцца, у асноўным атрымлівае васьмёркі, дзявяткі, дзясяткі. Бываюць і сямёркі, але, лічу, гэта больш ад ляноты, чым ад недахопу здольнасцяў. У такім узросце ўжо з'яўляюцца нейкія іншыя захапленні, якія адцягваюць увагу ад заняткаў.

Ялінка ходзіць таксама ў мастацкую школу, нешта дома нават на камп'ютары спрабуе маляваць. А яшчэ ёй вельмі падабаецца нешта рабіць сваімі рукамі. У інтэрнэце гэтаму вучыцца, а затым сама ўдасканальвае майстэрства.

**– Пакуль не вызначыліся з тым, чым будзе займацца Ялінка пасля школы?**

– Яна збіраецца паступіць у Мінску ў Коласаўскі ліцэй, калі ён яшчэ будзе існаваць. Усё ж такі хацелася б, каб у апошніх класах дачка атрымлівала адукацыю з нацыянальным ухілам.

Алесь СІВЫ.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## Сумная статыстыка

*Паводле інфармацыі пракуратуры Гродзенскай вобласці, за пяць апошніх гадоў у два разы знізілася колькасць забойстваў у рэгіёне, але ў той самы час агульная лічба росту злачыннасці ў вобласці павялічылася ў 1,7 разу.*

На Гродзеншчыне працягвае павялічвацца колькасць хуліганскіх злачынстваў, махлярстваў і злачынстваў у IT-сферы. Павялічылася колькасць загінуўшых і тых, хто атрымаў траўмы ў няшчасных выпадках. Такім чынам у 2018 годзе пацярпеў 81 работнік. 57 чалавек загінулі, а 375 атрымалі раненні на дарогах вобласці.

Павялічылася летась і колькасць трагедый на вадзе. У вадаёмах вобласці патанулі 55 чалавек, з іх 5 дзяцей.

Найбольшая колькасць злачынстваў у Гродзенскай вобласці – ў Свіслацкім, Астравецкім і Навагрудскім раёнах.

Аляксей МІХАЛЁЎ.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Як гродзенец спрабуе паставіць пад грамадскі кантроль працу гарадскога Савета

*Актывіст грамадскай ініцыятывы "Гародня"* ***Анатоль Мышкевіч*** *спрабуе дамагчыся ад кіраўніцтва гарадскога Савета дазволу прысутнічаць на пасяджэннях сесій з мэтай інфармаваць гараджан аб працы дэпутатаў.*

### Паводле рэгламенту, уся інфармацыя адкрытая і даступная

Днямі Мышкевіч атрымаў пісьмовы адказ ад старшыні Гродзенскага гарадскога Савета на свой зварот, у якім прасіў дазволу прысутнічаць на пасяджэннях гарсавета і весці аўдыё- і відэафіксацыю таго, што там адбываецца. Акрамя гэтага, актывіст прасіў за пяць дзён паведаміць яму праз электронныя сродкі сувязі аб пачатку правядзення сесіі.

У адказе Мышкевічу старшыня гарсавета Барыс Фёдараў спасылаецца на тое, што Савет арганізуе сваю працу на падставе рэгламенту, а, паводле яго слоў, *"магчымасць фотафіксацыі, аўдыё- і відэазапісу падчас сесіі прадастаўляецца з дазволу старшыні толькі прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі, якія маюць адпаведную акрэдытацыю".*

Дадаткова старшыня гарсавета паведамляе Мышкевічу, што поўная інфармацыя аб дзейнасці Савета з'яўляецца адкрытай і даступнай кожнаму грамадзяніну. І ў адпаведнасці з заканадаўствам распаўсюджваецца шляхам размяшчэння яе на інтэрнэт-сайце Гродзенскага гарадскога выканаўчага камітэта, у сродках масавай інфармацыі, на інфармацыйных стэндах.

Што тычыцца паведамлення спадару Мышкевічу аб пачатку працы сесіі, то, паводле рэгламенту, *"не прадугледжана апавяшчэнне грамадзян у індывідуальным парадку аб правядзенні пасяджэння Савета".*

### Чаго дамагаецца Мышкевіч?

Спадар Мышкевіч сцвярджае, што памкненні прысутнічаць на пасяджэннях гарадскога Савета і асвятляць іх для грамадзян горада звязаны перш за ўсё з тым, што гэта не супярэчыць ні Канстытуцыі, ні законам Беларусі. Ён перакананы, што адказнасць за нізкі ўзровень жыцця ў нашай краіне перш за ўсё ляжыць на ўладных структурах .

*"Справа ў тым, што я асабіста хацеў бы бачыць, колькі дэпутатаў прысутнічае на сесіі, слухаць іх дэбаты, аргументы на тым ці іншым пытанні, бачыць, як яны галасуюць,* – канкрэтызуе Анатоль. – *Перакананы, што кожнаму жыхару горада важна, як галасуе яго дэпутат, як ён адстойвае інтарэсы выбаршчыкаў, што прапаноўвае. На жаль, акрэдытаваныя СМІ гэтыя моманты не асвятляюць. А на інтэрнэт-сайце гарвыканкама размешчаны толькі прынятыя дэпутатамі рашэнні".*

Мышкевіч перакананы, што, назіраючы за працай дэпутатаў, выбаршчыкі здолеюць рабіць высновы аб тым, хто насамрэч там актыўна працуе і павінен быць абраны дэпутатам у наступны раз.

*"Ёсць жа шэраг такіх людзей, якія там нічога не робяць, ні за што не адказваюць і якім прасталі не месца ва ўладзе,* – кажа Мышкевіч. – *А каб даведацца, каму з іх там не месца, трэба бачыць, што яны там робяць".*

### Скардзіўся ў суд, але безвынікова

Яшчэ летась Анатоль Мышкевіч звярнуўся да гродзенскіх улад з просьбай арганізаваць анлайн-трансляцыю з пасяджэнняў гарадскога выканкама і сесій Савета дэпутатаў. Атрымаў адказ, што такое *"не прадстаўляецца магчымым".* Праўда, прычыны, паводле якіх немагчыма арганізаваць анлайн-трансляцыю, чыноўнікі ў сваім адказе не назвалі.

Традыцыйна было паведамлена, што ўсе дакументы і нарматыўныя акты, прынятыя гарвыканкамам і гарадскім Саветам дэпутатаў, асвятляюцца ў СМІ і маюцца ў банку дадзеных прававой інфармацыі.

Мышкевіч звяртаўся са скаргай у аблвыканкам, але вышэйстаячае кіраўніцтва парушэнняў заканадаўства ў адказе гарвыканкама не ўбачыла. Пасля гэтага актывіст вырашыў звярнуцца ў суд. Аднак суд разгляд справы прыпыніў з-за таго, што была пратэрмінавана падача скаргі.

### На пачатку 1990-х сесію гарсавета транслявалі на вуліцу

Чытаючы адказы гродзенскіх чыноўнікаў аб немагчымасці ў XXI стагоддзі наладзіць анлайн-трансляцыю, Віктар Какарэка, які быў дэпутатам Гродзенскага гарсавета на пачатку 1990-х, з усмешкай згадвае, што ў тыя часы любы чалавек мог не толькі прысутнічаць на пасяджэнні сесіі гарсавета, але і слухаць усе выступленні ў прамым эфіры.

*"У нас тады было больш за 100 дэпутатаў, і сесіі праводзіліся ў Доме культуры "Тэкстыльшчыкаў", паколькі там адпавядала зала,* – згадвае Какарэка. – *А дынамік выстаўлялі ў акно, каб кожны чалавек на Савецкай плошчы мог чуць, як працуюць дэпутаты. Праўда, мушу прызнаць, што не так часта гродзенцы спыняліся тады каля дынаміка і слухалі нашы дэбаты».*

Какарэка таксама згадвае, што сесія тады працягвалася як мінімум 3–4 дні, паколькі праблемныя пытанні абмяркоўваліся даволі востра: выклікалі дырэктараў прадпрыемстваў, прадстаўнікоў адміністрацыі горада, заслухоўвалі іх. А зараз, мауляў, дэпутаты разглядаюць усе важныя праблемы за 1–2 гадзіны.

Какарэка ўпэўнены: сённяшнія дэпутаты гарсавета – пераважна кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў горада – на сесію збіраюцца не дзеля таго, каб дыскутаваць, а проста каб узгадніць ужо раней запланаваныя рашэнні.

*"Цяпер усё вырашае "вертыкаль" улады,* – кажа былы дэпутат. – *А Савет існуе толькі дзеля таго, каб прыдаць легітымнасць іх рашэнням. Некалі без згоды дэпутатаў ніхто не мог зацвердзіць на пасадзе старшыню гарвыканкама, а зараз яго могуць проста прызначыць".*

Міхал КАРНЕВІЧ.

ЖИВАЯ ПРИРОДА

# Голодные игры

Волк – не друг человека, и, когда он появляется рядом с нами, а тем более пытается напасть, это становится чрезвычайным происшествием в стране. В январе волки в Беларуси активизировались. Сообщения об их стычках с людьми приходили из Столбцовского и Новогрудского районов. Интересно, что хищники в ярости нападали даже на автомобили и здорово попортили машины владельцам – рыбакам на Немане. Конечно, зверей через некоторое время уничтожили егеря. Одно животное – в Столбцах – ветврачи признали бешеным. Но волк с Новогрудчины, как определили специалисты, больным не был, хотя вел себя так агрессивно, что от него людям пришлось отбиваться ледорубами!

Мы попросили известного в республике охотника, бывшего начальника отдела Госинспекции охраны животного и растительного мира **Михаила Михайловича ЕМЕЛЬЯНОВА**, прокомментировать недавние ЧП, а также вспомнить о своих собственных встречах с волками – потому что у каждого настоящего охотника они обязательно случаются.

– Я лично встречался с волками три раза. Однажды в метрах ста серый сидел на поле, а мы с отцом приехали туда сено набирать. Мы подходим ближе, он отползает дальше. Но не уходит, наблюдает. И так несколько раз: мы ближе, а он держит дистанцию. А вообще человека волки избегают. Если только не больны бешенством. И если не голодны. Даже здоровые, но голодные звери порой не контролируют себя. Причем не только волки. Представьте, однажды на лед вышла норка и… напала на наш рыбацкий улов! Мы стали спасать свою добычу, но зверек так сильно ухватился за одну рыбину зубами, что не отпускал ее даже тогда, когда его подняли в воздух, пытаясь стряхнуть с судака. Это была настоящая борьба за жизнь.

– Или вот такой случай: на нас напал лебедь, – Михаил Михайлович даже оживился от воспоминаний. – Это случилось тоже зимой, на водохранилище под Минском. Мы сели перекусить, вдруг на берег выходит птица и очень грозно шипит. Мы отмахнулись от нее и тут же получили несколько ударов огромным крылом. А это, знаете, как доброй палкой! Поняли, что лебедь голоден – приучили его городские люди хлеб есть, – и поделились своими домашними припасами.

– Ну, а волки тем более могут отощать от зимних холодов. В принципе, я как охотовед отношусь к этому с пониманием, – признался Михаил Михайлович. – Было, почти сразу за своим огородом мы нашли останки молодого лося, задранного волком. Волки всегда рядом, это надо помнить. Да и другие звери: несколько лет назад буквально под Логойском нашли зимовку медведя. Что ж, человек жил и до сих пор живет в обнимку с природой. Это естественно и очень хорошо: значит, мы пока не превратились в насквозь синтетических роботов.

Елена ЛУБНЕВСКАЯ.

ГЛАС НАРОДА

# Господин Румас, услышьте нас…

Нашему правительству, кажется, уже давным-давно нужно было со стыда сгореть. Как это за тридцать с лишним лет не рассчитаться с теми, кто в трудное для государства время поддержал его своими сбережениями, а их до сих пор так и не отдали?!

Хочется надеяться, что опытный экономист, каким является нынешний председатель Совета министров Сергей Румас, будет более разумно расходовать деньги налогоплательщиков и вспомнит о тех, кому нужно вернуть деньги. Вариантов у него много. Прежде всего, и это основной источник, нужно сократить расходы на поддержание аппарата власти и довести его до уровня соседних европейских государств (5–10%). Мы чрезмерно увлеклись проведением развлекательных показушных спортивных игр, подчас с желанием провести их на уровне богатых стран (США, Канады, Германии…), социальный блок которых составляет более 50–70 процентов бюджета, в то время как у нас – около 20 процентов.




Мы любим проводить величественные военные парады по случаю всевозможных юбилейных и не только дат, когда можно было бы обойтись спортивными выступлениями на стадионах, народными гуляньями на улицах и площадях и т.п.

Какие неудобства подчас подготовки и проведения этих игр приходится выносить жителям города! Вот только один пример. Я каждый день наблюдаю транспортный коллапс на МКАД в районе улицы Ландера, где решили отремонтировать мост через железную дорогу до проведения Европейских игр. Скопление машин создало неблагоприятную экологическую обстановку в этом районе. Неужели нельзя решить этот вопрос по-другому, то есть полностью закрыть этот участок дороги и пустить транспорт по обходным маршрутам?

Читатели «Народной Воли» предлагали много вариантов решения вопроса о компенсации вкладов. Конечно, можно сделать вид, что в этом плане что-то делается, хотя на самом деле это была самая настоящая фикция – меняли один советский рубль на один «зайчик». Это, как отмечалось в газете, иначе как издевательством не назовешь. За семь тысяч советских рублей (стоимость легкового автомобиля) выдали семь тысяч зайчиков (стоимость пластмассовой коробочки для цветов в тот период).

Проще, конечно, сказать, что вопрос закрыт и никто им больше заниматься не будет. Но это ли не плевок в лицо людям старшего поколения, которых лишили их сбережений перед уходом на пенсию и заставили начинать жить с чистого листа?

Мы избирали депутатов в Палату представителей, давали им поручение решить этот вопрос по справедливости, однако я лично не слышал, чтобы они обсуждали его на своих пленарных заседаниях. И вообще, я хочу спросить у председателя Палаты представителей Владимира Андрейченко: почему не транслируют их работу по телевидению, как это практиковалось ранее, когда мы могли видеть своих депутатов и слышать их выступления? А ведь не за горами уже и новые выборы.

**Василий БОЛДЫШЕВ, пенсионер.**
*Минск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

*Маёй блізкай сваячцы хутка давядзецца звяртацца ў раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння для афармлення пенсіі. Але так атрымалася ў жыцці, што яна не мае неабходнага працоўнага стажу. Скажыце, ёй адмовяць у грашовай падтрымцы збоку дзяржавы ці нешта будуць выдаваць штомесяц?*

**Сямён КУРЫЛАЎ., Брэст.**

# Будзе сацыяльная пенсія

Паводле нашага заканадаўства, любы чалавек, дасягнуўшы сталага ўзросту, можа разлічваць на дапамогу дзяржавы. Але яна можа быць рознай – у залежнасці ад таго, які ўклад ён унёс за сваё жыццё ў агульнадзяржаўную скарбонку.

Таму, спадар Курылаў, калі ваша сваячка дасягнула 60-гадовага ўзросту, то атрымае пенсію, але зусім маленькую. Паколькі яна не мае неабходнага працоўнага стажу, ёй будзе прызначана так званая сацыяльная пенсія, якая, дарэчы, складае толькі палову бюджэту пражытачнага мінімуму. А гэта на сённяшні дзень усяго 107 рублёў.

ДИСКУССИЯ

# Половина денег уходит на лекарства

Хочу откликнуться на статью Алексея Ефимчика «Пенсионеры-страдальцы и пенсионеры-господа», которая была напечатана в газете «Народная Воля» 25 января 2019 года. Действительно, давно пора установить дифференцированный подход в назначении пенсий различным категориям граждан. Так, военнослужащим советского периода (которых уже почти не осталось) заслуженно начислялась высокая пенсия, прежде всего по советским гарнизонам и не только. Нынешним же военнослужащим, уходящим в отставку, считаю, размер существующей пенсии слишком высок, ведь служат они в родном Отечестве. То же самое относится и к работникам Министерства внутренних дел: почему кадровики, тыловики, финансисты и прочие служащие вспомогательных служб, извините, протирающие на работе штаны, должны получать такую же пенсию, как и, скажем, оперативники, омоновцы, «топтуны» и другие работники так называемых опасных профессий?

Сам я ушел на пенсию в 2007 году, но работал еще до 2011-го, вовремя ушел, хотя предлагали еще поработать. Не хотел оставаться из-за возрастающего прессинга и чиновничьего беспредела. Дело доходило порой чуть ли не до плана по изъятию талонов по технике безопасности.

Пенсия моя по сравнению с другими вроде бы и не маленькая – 500 белорусских рублей, во всяком случае в совокупности с пенсией супруги выжить можно. Вот только бы не старость и связанные с ней болезни, когда почти половина пенсии уходит на лекарства при почти ежедневном росте цен…

**Александр РЯБЦЕВ.**
*г.Слуцк.*

КРОПКІ НАД «І»

# Ніякай кніжнай інсталяцыі танка не будзе!

У мінулым нумары «Народнай Волі» была змешчана калонка Алены Малочка пад назвай «Зачем построят танк на книжной ярмарке?». На жаль, аўтар у апошні момант, непасрэдна перад публікацыяй, не праверыла інфармацыю, якая на той час ужо састарэла, ды і афіцыйнага пацвярджэння не мела. Фактычна яна напісала пра раней укінутую ў СМІ ідэю кніжнай інсталяцыі танка на чарговай кніжнай выстаўцы-кірмашы, якая пачне сваю працу ў Мінску 6 лютага. Дарэчы, па пастаянным адрасе – Адміністрацыйны комплекс па праспекце Пераможцаў, 14.

Каб зняць непаразуменне, рэдакцыя вырашыла зрабіць удакладненне, звярнуўшыся за каментарыем да начальніка ўпраўлення выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці Міністэрства інфармацыі краіны **Алены Паўлавай**. І вось што яна сказала:

– Праграма кніжнай выстаўкі-кірмашу ўжо надрукавана. Дарэчы, з улікам усіх прапаноў ад выдавецтваў, кнігагандлёвай сеткі, бібліятэк і, што цікава, ад музеяў, тэатраў і кінатэатраў. Ніякага танка – ні сапраўднага, ні інсталяцыі – мы як галоўныя арганізатары не ўсталёўваем. І не збіраліся гэтага рабіць. Так, такая «танкавая» прапанова раней выказвалася, але цікавасці на аргкамітэце выстаўкі яна не выклікала. Пэўна, сапраўды ёсць рэчы несумяшчальныя…

І з Аленай Малочка тут не паспрачаешся.

**– Дарэчы, вы гаворыце, што прапановы наконт мерапрыемстваў у праграму выстаўкі выклалі не толькі выдавецтвы, не толькі кнігарні…**

– Так, адметнасць сёлетняй – XXVI па ліку – Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу заключаецца найперш у тым, што праграма кніжнага свята разлічана на многія пляцоўкі. У кінатэатрах у гэтыя дні – з 6 па 10 лютага – пройдуць кінафільмы, сцэнарыі якіх створаны паводле твораў беларускіх пісьменнікаў. У тым ліку і кінафільм Сяргея Лазніцы «У тумане» паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава ў кінатэатры «Ракета». Будзе паказаны гэты кінафільм і ў сталічным Доме кіно. А ў кінатэатрах «Кастрычнік» і «Салют» – «Цуда-востраў, ці Палескія рабінзоны», які нагадае нам славуты твор Янкі Маўра.

Вельмі многа розных аўтограф-сесій, прэзентацый беларускіх і замежных пісьменнікаў пройдзе ў бібліятэках горада. Напрыклад, у дзіцячай бібліятэцы імя Васіля Віткі – тэатралізаванае прадстаўленне «Хітрая скарбонка Уладзіміра Ліпскага» паводле кнігі вядомага пісьменніка «Грошык і яго таямнічы кошык».

Хацела б падкрэсліць, што вялікая ўвага, як ніколі, нададзена перакладной літаратуры. Чытачы, наведвальнікі выстаўкі і госці розных імпрэз у бібліятэках, музеях Мінска, дарэчы, як і непасрэдна на выстаўцы пазнаёмяцца з творчасцю самых розных літаратараў еўрапейскіх краін. Пазнаёмяцца праз прэзентацыі кніг, сустрэчы з аўтарамі, нават – праз удзел у майстар-класах па кніжнай графіцы.

Шведская амбасада падрыхтавала выстаўку ілюстрацый «Ура дзіцячай кнізе!». Наведвальнікам можна будзе нават сфатаграфавацца з парыкам Пэпі. Шведы прадставяць і кнігу-комікс «Даведнік супергерояў» у перакладзе на беларускую мову. Аўтограф-сесію правядзе і беларуская перакладчыца шведскіх дзіцячых кніг Надзея Кандрусевіч.

Шмат прыдумак – на стэндах Італіі, ФРГ, Фінляндыі і іншых краін. Нават конкурс на лепшае чытанне фінскага эпасу «Калевала» пройдзе.

**– Спадзяёмся, што нашы, беларускія, выдавецтвы, пісьменнікі не саступяць замежнікам…**

– Ні ў якім разе! Многа розных ініцыятыў вылучылі прыватныя выдавецтвы. Будзе і дыскусія наладжана адным з іх – «Нобелеўскія лаўрэаты па-беларуску – чаму гэта актуальна». Дарэчы, у «Мастацкай літаратуры» толькі што выйшла кніга лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» у перакладзе на беларускую мову. «Мастацкая» перавыдала і кнігу вялікага амерыканскага пісьменніка Уолта Уітмена «Лісце травы» ў бліскучым перакладзе Янкі Сіпакова. Калі планавалі гэты праект, я пацікавілася ў выдаўцоў: няўжо Уітмен актуальны? Адказалі станоўча і досыць пераканаўча. Нават прыклад прывялі: два гады таму, у 2016-м, легенда року Ігі Поп запісаў альбом на вершы Уолта Уітмена. З гэтым, пэўна, не паспрачаешся.

«Вышэйшая школа» выдала досыць цікавы і грунтоўны даведнік «Сто пісьменнікаў ЗША». Адным словам, цікавостак на выстаўцы будзе звышдастаткова. Чакаем усіх у госці! Галоўнае пажаданне: каб усе наведвальнікі знайшлі на выстаўцы для сябе тую кнігу, якую і прачытаюць, і ў хатняй бібліятэцы для наступных пакаленняў пакінуць.

**Надзея ЦВІРКО.**

ПАМЯЦЬ

# Вярніце Гараўскага на радзіму!

На Беларусі шмат тапонімаў з назвай Уборак. Неяк мой зямляк Валодзя К. падчас сустрэчы на радзіме зазначыў, што ў нашых краях нарадзіўся вядомы мастак Гараўскі. І пераконваў мяне так, што я вымушаны быў пайсці з ім за два кіламетры ў суседнюю вёску Уборак. На краю гэтай шляхетнай у мінулым ваколіцы віднеліся руіны з прыкметамі невялікай сядзібы. «Вось тут стаяў дом Апалінарыя», – сказаў Валодзя. І як я ні пярэчыў, ён «прапісаў» мастака ў нашым Асіповіцкім раёне.

Было б тое, можа, і смешна, калі б не так сумна. Зямляк спасылаўся на друкаваны матэрыял. Там было напісана, што Апалінарый Гараўскі сапраўды нарадзіўся ва Уборках Ігуменскага павету. А Ігуменшчыне тады належаў і наш куток. Я не здаўся, вырашыў зазірнуць у Вікіпедыю (be.wikipedia.org). Там адшукаў інфармацыю, што Гараўскі нарадзіўся ў маёнтку Уборкі, які зараз знаходзіцца ў Пухавіцкім(!) раёне Мінскай вобласці. «Відаць, складальнік артыкула такі ж патрыёт, як і Валодзя, толькі Пухавіцкага раёна», – падумалася мне. Сапраўды Пухавіччына прэтэндуе быць радзімай Гараўскага, маючы ажно два населеныя пункты з падобнымі назвамі! (Каб неяк вызначыцца, адзін з іх назвалі Новым Уборкам.) Сайт artbelarus.by найбольш наблізіўся да праўды, бо адшукаў радзіму Гараўскага на Бярэзіншчыне. Але ў маёнтку, якога ніколі не існавала.


Апалінарый Гараўскі. Смерць паўстанца.

Дык адкуль жа родам быў знакаміты Апалінарый Гіляравіч Гараўскі, якога руская Вікіпедыя называе «белорусско-русским художником»? (Праўда, у рускіх і Марк Шагал «российский и французский художник белорусско-еврейского происхождения», то бок – рускі.)

Канешне ж, Апалінарый Гараўскі з Уборку. Дакладней, з «односелья» Уборкі. Від гэтага паселішча цяпер і вызначыць цяжка. Даведнік падае, што гэта «поселенье одной семьи, род заимки, хутора, фольварка, мызы». Як вынікае з плана ў архіўнай справе, знаходзіліся некалі гэтыя Уборкі пры дарозе з Ліпніцы ў Астравок на прасцягу сучаснага Бярэзінскага раёна (мажліва, недалёка ад вёскі Брадзец, якая пазней стала маёнткам Гараўскіх).

Вядома, што маці Апалінарыя Гараўскага Марыя набыла Уборкі ў 1836 годзе ў Марыі з Тамашэўскіх (у другім шлюбе Усціновічавай) цераз сыноў апошняй – Усціна і Мацвея Сарачынскіх. Пэўна, да гэтага Гараўскія арандавалі хутар, бо тут на ўлонні прыроды Апалінарый нарадзіўся ў 1833 годзе. Бацьку мастака, Гілярыю Францавічу, які круціўся, як Марка па пекле, каб накарміць сям'ю ў дзесяць душ, дапамагалі пяцёра дворных – сям'я Карпуся Крыўцова. (Калі надышла пара адмены прыгону, то Карпусь разам з сынам Карлам атрымалі ад Гараўскіх у выкуп па 23 дзесяціны зямлі. Але нават тых 194 рублёў 69 капеек, якія належала сплаціць, у іх не было. Так і жылі па-ранейшаму «неадкупленыя» сяляне побач з сям'ёй «пана» амаль дваццаць гадоў.)

Паводле закона Расійскай імперыі, Апалінарый, як старэйшы сын у сям'і, быў абавязаны адслужыць вайсковую службу. Калі не было ваеннай адукацыі, то – шараговым. Бацька паклапаціўся, каб сын трапіў у толькі што створаны Брэст-Літоўскі кадэцкі корпус. Вучоба вымагала расходаў, але давала і перспектыву, бо ў іншых сферах, акрамя арміі, беларусам зрабіць кар'еру было немагчыма. Што адбылося пазней, вядома з літаратуры: цераз знаёмства з палкоўнікам Міхаілам Бенуа, братам прыдворнага расійскага архітэктара Мікалая Бенуа, Апалінарый у 1850 годзе паступіў у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Поспехі ў жывапісе былі ашаламляльныя. Гараўскі скончыў акадэамію з вялікім залатым медалём.

Сайт www.facebook.com/puchavickirajoninfo «прызямляе» мастака канкрэтна ў Дукорскім сельсавеце на Пухаўшчыне (трэба ж дзесьці даць яму прытулак). Але мне падаецца, што ваколіцы вёскі Брадзец на Бярэзіншчыне выглядаюць не горш, Гараўскі неаднойчы маляваў родныя мясціны.

У 1890 годзе, відаць, ужо пасля смерці бацькоў, Гараўскія прадалі свае самотныя Уборкі селяніну Нікіфараву. Пазнейшыя гістарычныя завеі сцёрлі памяць пра іх. Але, я ўпэўнены, нашы мастакі адшукаюць гэта ўрочышча і ўвекавечаць тут не кароў і казлоў (як гэта яны робяць апошнім часам у сталіцы), а свайго калегу па цэху. Канешне, калі гонар маюць.

**Віктар ХУРСІК, ураджэнец аднаго з беларускіх Уборкаў.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Багоўка – божая кароўка




Сем'і, у якіх ёсць малыя дзеці, і работнікі дзіцячых садоў не маглі не заўважыць, што беларускія пісьменнікі вельмі мала пішуць вершаў, апавяданняў, казак для самых маленькіх дзяцей. Між тым для іх з'явіўся маральны стымул: выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў 2013 годзе заснавала серыю «Нашым дзеткам».

Добрая ініцыятыва дае плён. Паціху пачалі з'яўляцца ў кнігарнях гэтыя дэфіцытныя выданні. І самае свежае з іх – «Багоўка» Уладзіміра Сіўчыкава. Адразу карціць назваць і маладую мастачку Анастасію Лісавец. Кошт каляровай кніжкі ў пераплёце даволі даступны, яе наклад – 1500 асобнікаў. Кніжка вельмі цікавая. Чытачы авалодаюць мілагучным беларускім словам *багоўка*, запомняць яго, уведаюць, чаму ката паэт назваў паляўнічым, а яшчэ – што прыпасае сабе на зіму ваверка, а што ў закутку трымае аматарка слодычы Хрысціна. Іншая ласуха не цураецца глыбоцкай згушчонкі. Вельмі пашанцавала яшчэ адной «жыхарцы» кніжкі «Багоўка»: «*У красуні, у Ілонкі, // Вышываная дублёнка.// Па дарозе з Серабранкі // Не дае замерзнуць ранкам.// З вёскі Моталь кажушку// Аж зайздросцяць у садку*».

Як бачым, у гэтага выдання – не толькі прыгожая вопратка, а і беларуская душа. У вершы «Будзь беларускай!» ёсць такія неацэнныя словы: «*Нібы замову, // Моц і пяшчоту // Бацькавай мовы // Помні заўсёды*».

Нам з унукамі асабліва пашанцавала. Сваю кнігу шчыры аўтар блаславіў прыязным аўтографам: «Хай Глебу разам з Веранічкай // Гартаць «Багоўку» стане добрай звычкай!»

Віншуем Уладзіміра Сіўчыкава з цудоўнай навінкай!

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

